Прачытай сам і перадай другому.

№ 17 (4577)

5 сакавіка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**«Народная Воля» в Facebook**
www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

## Забойца Рамана Бандарэнкі на свабодзе, а журналістка Кацярына Барысевіч, якая напісала праўду, застаецца за кратамі. Дзе ж справядлівасць?



САЛІДАРНАСЦЬ

## Ці мог урач прамаўчаць і дазволіць зняславіць імя забітага?

*Медыкі напісалі адкрыты ліст кіраўніку галіновага прафсаюза Вячаславу Шылу.*

2 сакавіка суд Маскоўскага раёна Мінска вынес прысуд урачу-анестэзіёлагу Бальніцы хуткай медыцынская дапамогі Арцёму Сарокіну па справе пра «ноль праміле»: два гады калоніі з адтэрміноўкай на год. Пасля гэтага яго калегі напісалі зварот да кіраўніка прафсаюза медыцынскіх работнікаў Вячаслава Шылы.

Як адзначаюць аўтары, яны не просяць даць прававую ацэнку рашэнню суда, а заклікаюць ацаніць сітуацыю з пункту гледжання ўрачэбнай этыкі. У «Кодэксе ўрачэбнай этыкі», пішуць медыкі, ёсць два артыкулы, якія, паводле іх меркавання, тычацца сітуацыі, у якой апынуўся анестэзіёлаг Арцём Сарокін.

**Артыкул 5.** Урач абавязаны ўсімі даступнымі яму спасабамі садзейнічаць справе аховы здароўя насельніцтва, змагацца з любымі формамі праяўлення жорсткасці і прыніжэння чалавечай годнасці.

**Артыкул 9.** У сваёй рабоце ўрач прымае ўсе захады па папярэджанні шкоды пацыенту (фізічнай, маральнай, матэрыяльнай) і не можа абыякава ставіцца да няправільных дзеянняў іншых асоб, якія наносяць шкоду людзям.



*«<…> Недакладнасць заявы пра знаходжанне Рамана [Бандарэнкі] у стане алкагольнага ап'янення прынізіла чалавечую годнасць загінулага і, безумоўна, прынесла б маральныя пакуты самому Раману, а таксама ўжо прычыніла пакуты яго сям'і і блізкім. Дадзены працэс ускалыхнуў медыцынскую супольнасць. Мы не просім Вас каментаваць праваявыя аспекты ўчынка, здзейсненага ўрачом Арцёмам Сарокіным. Мы просім Вас даць выключна маральную ацэнку яго дзеянням»,* – пішуць у звароце медыкі.

Паводле іх меркавання, учынак урача *«быў прадыктаваны сумленнем і цалкам адпавядае «Кодэксу ўрачэбнай этыкі», хаця суд і прызнаў яго супрацьзаконным, нават нягледзячы на згоду і жаданне родных забітага зрабіць гэту інфармацыю галоснай».*

*«Паважаны Вячаслаў Дзмітрыевіч, Вы ўзначальвалі БХМД з 2011-га па 2014 год, мы не ведаем, ці былі Вы асабіста знаёмы з Арцёмам Сарокіным, калі працавалі галоўным урачом, але адкажыце як кіраўнік арганізацыі, закліканай абараняць медыкаў, як урач і як чалавек: ці правільна паступіў Арцём Сарокін з пункту гледжання ўрачэбнай маралі, ратуючы гонар забітага чалавека?* – пераліčваюць свае пытанні да кіраўніка прафсаюза медыкі. – *Прынцыпы ўрачэбнай этыкі фарміраваліся вякамі, але асноўны пастулат медыцыны быў нязменны: інтарэсы пацыента заўсёды пераважалі над інтарэсамі ўрача. <…> Ці зрабіў урач кепска, нягледзячы на букву закона? Ці мог урач змаўчаць і дазволіць зняславіць імя забітага?»*

За першыя суткі пад зваротам падпісаліся больш за 430 чалавек. Гэта медыкі з 3-й, 4-й, 5-й, 6-й, 10-й, 11-й бальніц, РНПЦ дзіцячай анкалогіі і гематалогіі, РНПЦ траўматалогіі і артапедыі, РНПЦ анкалогіі і радыялогіі імя Аляксандрава, Мінскага гарадскога анкадыспансера, Мінскай абласной бальніцы, МНПЦ хірургіі, трансплантaлогіі і гематалогіі, супрацоўнікі хуткай дапамогі і паліклінік. Зараз збор подпісаў працягваецца ў электроннай форме.

ЧУЛІ?

## Драма, але не трагедыя Віктара Шадурскага

*Дэкан факультэта міжнародных зносін БДУ звольніўся пасля 12 гадоў працы.*

Увечары 3 сакавіка ліст, які Шадурскі накіраваў студэнтам, апублікаваў вядомы тэлеграм-канал, які займаецца асвятленнем праблем студэнцкай супольнасці. У лісце дэкан сказаў, што ягоны сыход *«драма, але ніяк не трагедыя»*, і папрасіў абысціся без *«лішніх рухаў»*.

Таксама Шадурскі пажадаў студэнтам *«заставацца дружнай камандай і змагацца за факультэт»* і згадаў нейкую *«гутарку»*, пасля якой напісаў заяву аб звальненні па ўласным жаданні.



Віктар Шадурскі ўзначаліў факультэт у 2008 годзе. Сфера яго навуковых інтарэсаў – актуальныя праблемы замежнай палітыкі Рэспублікі Беларусь, яе дачыненні з еўрапейскімі дзяржавамі, унутраная і замежная палітыка Францыі, месца і роля краін Балтыйскага рэгіёна ў сучаснай сусветнай палітыцы і іншае.

Аўтар шматлікіх навуковых публікацый, у тым ліку выдадзеных за мяжой, манаграфіі і навучальнага дапаможніка, рэкамендаванага Міністэрствам адукацыі. Сябра Вучонага савета БДУ.

ТЫМ ЧАСАМ

### Алена Дастанка – новы дэкан факультэта міжнародных адносін

*Учора яе прадставілі калектыву.*



Яна скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і аспірантуру БДУ. Алена Анатольеўна – кандыдат палітычных навук, дацэнт.

На факультэце міжнародных адносін БДУ працуе з 1998 года, выкладала прадметы «Еўрапейскі Саюз у сучасным свеце» і «Эканамічная дыпламатыя Рэспублікі Беларусь».

**Вера ВІР.**

ГАНЬБА!

## Як Аб'яднаная грамадзянская партыя «абараняла» свайго лідара...



*Як вядома, лідар АГП **Мікалай Казлоў** быў асуджаны на 15 сутак за адмову даваць у Следчым камітэце падпіску аб неразглашэнні. Суд адбыўся 18 лютага.*

Кіраўніка Аб'яднанай грамадзянскай партыі выклікалі да следчых яшчэ ў снежні 2020 года, каб ён даў тлумачэнні аб дзейнасці Каардынацыйнай рады. Пратакол склалі пасля таго, як Казлоў трэці раз запар адмовіўся даваць падпіску аб неразглашэнні. Забралі яго адбываць суткі толькі 1 сакавіка, а ўчора нечакана адпусцілі.

"Народная Воля" пацікавілася, як партыя абараняла свайго лідара, пакуль той быў за кратамі. Найперш з гэтым пытаннем мы звярнуліся да намесніка старшыні АГП **Вольгі БЕЛЯЎЦОВАЙ**.

**– Ужо каторы месяц улады прэсуюць Мікалая Казлова. Чаму з гэтай нагоды маўчыць партыя? Што вы зараз прадпрымаеце?**

– Нельга сказаць, што партыя зусім нічога не робіць з гэтай нагоды і не бачыць, што адбываецца. Пытанне незаконнага асуджэння Мікалая Казлова абмяркоўвалася на Палітрадзе.

**– Можа быць, была з гэтай нагоды прынята нейкая афіцыйная заява?**

– Не, заява не прымалася, але гэтае пытанне абмяркоўвалі...

**– Чаму партыйцы з нагоды арышту Казлова не ладзілі нейкія пікеты альбо мітынгі не толькі ў Мінску, але і па ўсёй краіне? Ці падавалі заяўкі на правядзенне акцый у абарону лідара партыі?**

– На Палітрадзе абмяркоўвалася пытанне накont падачы заяўкі на святкаванне Дня Волі, і большасць сябраў рады выказаліся за тое, каб не падаваць заяўку. Як вядома, падчас любой акцыі трэба аплачваць працу праваахоўнікаў, а ў нас няма жадання іх фінансаваць.

Гэта, дарэчы, і пазіцыя Мікалая Казлова. Таму мы наогул не падаём заяўкі на правядзенне любых масавых мерапрыемстваў.

Але мы ўсе ў партыі вельмі перажываем за Мікалая Казлова. Яму аказвалася юрыдычная падтрымка і гэтак далей.

*Пракаментаваць сітуацыю таксама і адзін з ветэранаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Леў МАРГОЛІН**:*

– Пасля арышту Мікалая Казлова мы, безумоўна, праінфармавалі міжнародную супольнасць. У прыватнасці, звярталіся ў Еўрапейскую народную партыю, назіральнікамі якой мы з'яўляемся, у Савет Еўропы і некаторыя іншыя структуры.

А што тычыцца прынцыпу нейкіх гучных заяў з гэтай нагоды ў Беларусі, то каму будуць такія заявы накіраваны? Да ўлады, чыю легітымнасць мы не прызнаём? Які сэнс?

Заклікаць да справядлівасці? Сёння, прабачце, бел-чырвона-белыя трусы, якія вісяць на балконе тваёй кватэры, могуць прызнаць (і прызнаюць) несанкцыянаванным пікетаваннем і за гэта адпраўляюць на "суткі". Закона ў краіне няма, права не працуе, і мы не лічым неабходным да некага звяртацца з заявамі. Яны нічога не зменяць, і да іх ніхто не прыслухаецца.

**– Чаму партыя не падавала заяўкі на правядзенне акцый у падтрымку Мікалая?**

– Адказ той жа самы. Якія могуць быць заяўкі да тых, каго мы не прызнаём легітымнымі? Плаціць грошы тым, хто нас затым будзе за гэтыя ж грошы біць? Няма сэнсу.

Хаця ўсе мы і так бачым абсурднасць справы Мікалая Казлова. Хачу таксама адзначыць, што Мікалай ведаў, на што ён ідзе і чым усё можа закончыцца. Ён не скарыстаўся самацэнзурай, бо мае пэўныя перакананні, і за гэта яго прэсуюць.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

### АД РЭДАКЦЫІ

Заўважце, шаноўныя чытачы: нейкія няўцямныя адказы пачуў наш журналіст ад паплечнікаў Мікалая Казлова. Атрымліваецца, што ў Аб'яднанай грамадзянскай партыі няма ніякіх магчымасцяў абараніць свайго кіраўніка. Ці не ранавата вы, шаноўныя, распісваецеся ў бяссіллі? Скажыце лепш, што ў партыі няма той згуртаванасці, якая надала б ёй магутнасць у адстойванні правоў сваіх сяброў. А змагацца за справядлівасць ёсць маса сродкаў. Было б жаданне. Шкада, што яго ў партыйцаў не хапае...

ПАРАЎНАЕМ!

## У Беларусі самы нізкі заробак у Еўропе?

*Паводле ўзроўню сярэдніх заробкаў у свеце Беларусь заняла 101-е месца са 160 краін. Такую інфармацыю агучыла Міжнародная арганізацыя працы (МАП) па выніках 2020 года.*

Ёсць высокая верагоднасць таго, што і па выніках 2021 года Беларусь стане краінай з самым малым сярэднім заробкам, піша *infobank.by*.

Самы высокі сярэдні заробак у Швейцарыі – 6270 долараў. У Польшчы зарабляюць у сярэднім 1410 долараў, у Літве – 1840, Латвіі – 1311, Расіі – 628, а ва Украіне – 508 долараў.

Паводле звестак Белстата, сярэдні заробак працаўнікоў у Беларусі ў студзені 2021 года склаў 1290 рублёў, або каля 496 долараў. Але гэта – да выплаты падаткаў.

Яшчэ дзесяць гадоў таму самай беднай краінай геаграфічнай Еўропы лічылася Малдова, дзе фіксаваліся самыя нізкія заробкі. Цяпер «мінімалка» ў Беларусі ніжэйшая, чым у Малдове і Украіне. Паводле бягучага курсу долара на сёння яна складае (у доларах):

Беларусь – 155,
Малдова – 165,
Украіна – 215.

РУБАМ!

# Перастаньце крывадушнічаць, спадарыня Касьянчык!

*Памочніца пракурора Фрунзенскага раёна г.Мінска* ***Аліна Касьянчык****, якая выступала дзяржаўным абвінаваўцам на гучных палітычных працэсах, патлумачыла свае дзеянні былым аднакласнікам з Ліцэя БДУ.*

### Штрыхі яе шляху

- Памочніцы пракурора Аліне Касьянчык 22 гады.
- Паходзіць з вёскі Крукавічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці.
- У 2013–2015 гадах вучылася ў Ліцэі БДУ, паступіўшы туды без экзаменаў як прызёр рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове.
- Куратарам Аліны Касьянчык на размеркаванні быў начальнік аддзела грамадскага абвінавачвання Генпракуратуры Эльдар Сафараў, які ў 2010 годзе вёў справу палітвязня Мікалая Аўтуховіча, а летась у кастрычніку звольніўся праз падзеі лета-восені 2020-га.
- Паводле абвінавачванняў Аліны Касьянчык 26-гадовага Рыгора Давыдава пакаралі 4,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму за тры кідкі неўстаноўленым прадметам у бок праезнай часткі і спецтранспарту каля ГЦ «Рыга». Як доказ Аліна Касьянчык прад'явіла відэа, на якім немагчыма вызначыць асобу. Пацярпелых у справе няма.
- Менавіта паводле яе абвінавачванняў на 2 гады калоніі агульнага рэжыму асудзілі журналістак «Белсата» Кацярыну Бахвалаву (Андрэеву) і Дар'ю Чульцову, якія вялі стрым з разгону акцыі памяці забітага Рамана Бандарэнкі на «Плошчы Перамен».
- Таксама менавіта Аліна Касьянчык выступіла абвінаваўцам у справе аб надпісе «Не забудзем» непадалёк ад месца забойства Аляксандра Тарайкоўскага. Як вынік – 26-гадовага Максіма Паўлюшчыка пакаралі 2 гадамі калоніі агульнага рэжыму, а 25-гадовай Марыі Бабовіч прысудзілі паўтара года «хатняй хіміі».
- Да таго ж паводле абвінавачвання Аліны Касьянчык у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу на паўтара года адправілі 19-гадовага Іллю Тананку за надпіс «Балаба забойца», нанесены асадкай у доме камандзіра мінскага АМАПа.

*Паводле інфармацыі аднакласнікаў, пасля публікацыі Радыё Свабода Аліна Касьянчык перарвала сваё шматмесячнае маўчанне і адказала ім у агульным чаце. Прыводзім яе допіс.*

### «…Гэта мой усвядомлены выбар, абмяркоўваць які я не лічу неабходным»

«Не, справа ні ў якім не шантажы і не ў ціску, гэта мой усвядомлены выбар, абмяркоўваць які я не лічу неабходным. Даваць які-небудзь падрабязны каментарый не бачу сэнсу. Наталіць нечую цікаўнасць і назіраць потым вырваныя з кантэксту фразы, якія будуць абмяркоўваць «экспертамі» ў галіне юрыспрудэнцыі? Пераконваць некага ў сваёй рацыі альбо заклікаць не рабіць высноў пра законнасць прынятых кожнага канкрэтнага рашэння, толькі начытаўшыся артыкулаў у медыя, я не буду, як і не буду пераконваць вас, што я засталася ўсё той жа самай Алінай, якую вы ведалі 6 гадоў таму і пра якую сказалі, на мой погляд, дастаткова добрых слоў, за што я шчыра ўдзячная.

У кожнага з вас свае погляды і перакананні, калі яны не супадаюць з маімі, вам застаецца толькі расчаравацца ўва мне (што, уласна, ужо адбылося) і прыняць факт».

## Ігар ІЛЬЯШ: «Банальнасць зла»

*Журналіст тэлеканала «Белсат»* ***Ігар Ільяш****, муж палітзняволенай журналісткі Кацярыны Андрэевай, якую асудзілі на 2 гады калоніі агульнага рэжыму паводле абвінавачвання Аліны Касьянчык, пракаментаваў яе адказ аднакласнікам:*

«Відавочна, што Аліна Касьянчык хацела так сфармуляваць свой каментарый, каб не сказаць нічога лішняга... Але ў апошнім сказе раптам прагаварылася. «*У кожнага з вас свае погляды і перакананні, калі яны не супадаюць з маімі…*» Аліна, калі пытанне вырашаецца ў плоскасці права, то «погляды і перакананні» людзей не маюць значэння. Правы і закон (калі яны сапраўды існуюць, а не з'яўляюцца толькі шырмай для палітычнага тэрору) не могуць быць за Лукашэнку або супраць яго. Не могуць быць за «стабільнасць» або за перамены.

Правы і закон – гэта аб'ектыўная з'ява, нейтральная па сваёй сутнасці. А вось калі вы вырашаеце кінуць у турму двух невінаватых людзей, кінуць іх за краты толькі за тое, што яны журналісты, – вось гэта сапраўды непасрэдна звязана з поглядамі і перакананнямі.

У нейкі момант вы вырашылі, што мэта апраўдвае сродкі. Што кідаць за краты невінаватых людзей можна дзеля таго, каб... Не ведаю, як вы сабе там апраўдваеце. Карыстаецеся прапагандысцкім штампам «каб не было, як ва Украіне»? Або шчыра: каб зрабіць кар'еру ў пракуратуры? Я асабіста думаю, што вы выкарыстоўваеце нейкі сімбіёз гэтых апраўданняў. Ваш выпадак наўрад ці істотна адрозніваецца ад выпадку следчых Курыловіча і Кудзелі, адкрыты ліст да якіх я пісаў у студзені. Банальнасць зла.

І, калі ласка, толькі не кажыце пра «юрыспрудэнцыю» і пра высновы на падставе «артыкулаў у медыя» – не рабіце вы дурняў з сябе.

Тэкст выраку ёсць у адкрытым доступе. Любы, хто мае крытычнае мысленне, можа азнаёміцца з гэтымі матэрыяламі і прыйсці да высновы, што абвінавачванне было сфабрыкавана. Не трэба быць юрыстам, каб зразумець, што фразы «*бачым, што частка людзей перакрылі дарогу*» або «*паглядзіце вось на гэтых смелых хлопцаў*» – гэта не злачынства. Пры дапамозе гэтых слоў немагчыма кіраваць нават прыдуманымі беспарадкамі. Гэта проста журналісцкі рэпартаж.

Вы кажаце, што гэта «*ваш свядомы выбар*». Але даруйце. Усім вядома, што ўстаноўка максімальна жорстка караць «палітычных» – гэта загад Андрэя Шведа. Няўжо, калі б генпракурор вас арыентаваў на спыненне пераследу, вы бунтавалі б і дабіваліся для абвінавачаных зняволення? Можа, ваш «свядомы выбар» – гэта проста выконваць любы загад кіраўніцтва? Ну што ж, бывае і так. Але калі гэта ваша глыбокае перакананне, то перастаньце крывадушнічаць.

Скажыце сябрам і ўсяму грамадству шчыра: так, Кацярына Андрэева і Дар'я Чульцова невінаватыя, я здзейсніла злачынства супраць правасуддзя. Але яны мусяць сядзець у турме, бо цяпер такая «генеральная лінія» кіраўніцтва дзяржавы. Яны мусяць два гады правесці ў калоніі, бо для цяперашняй улады гэта школьныя людзі, і я цалкам згодна з гэтым. Скажыце так, і гады вашы словы пра «погляды і перакананні» набудуць сэнс.

Сапраўды, погляды ж бываюць розныя: у Роланда Фрайслера былі адны, у Ганса і Сафі Шоль – іншыя. Як вы слушна заўважылі: варта проста прыняць гэта як факт».

(*Даведка РС: Роланд Фрайслер (ням. Roland Freisler) – у 1934–1942 гадах дзяржаўны сакратар Міністэрства юстыцыі, а з 1942-га па 1945-ы – старшыня Народнай судовай палаты ў III Рэйху. Дастасоўваў заканадаўства да нацысцкай ідэалогіі. Як суддзя правёў больш за 1200 палітычных працэсаў, у тым ліку асудзіў да пакарання гільятынай студэнтаў, членаў групы «Белая ружа» брата і сястру Ганса і Сафі Шоль (ням. Hans Scholl, Sophie Scholl), якія раскідалі ўлёткі з заклікамі да негвалтоўнага супраціўлення злачыннаму рэжыму).*

**P.S.:** Адвакаты Кацярыны Бахвалавай (Андрэевай) і Дар'і Чульцовай падалі апеляцыю ў Мінскі гарадскі суд. Абаронца Кацярыны Андрэевай **Сяргей Зікрацкі** ў сваім допісе ў «Фэйсбуку» падрабязна патлумачыў асноўныя тэзісы абароны. Сярод іншага адвакат звяртае ўвагу, што падзеі 15 лістапада 2020 года нельга назваць дзеяннямі, якія груба парушаюць грамадскі парадак.

Абаронца зазначае, што суд не ўстанавіў фактаў непадпарадкавання законным патрабаванням прадстаўнікоў улады, а таксама таго, што менавіта дзеянні ўдзельнікаў акцыі пратэсту прывялі да спынення працы транспарту. Таксама экспертызы лінгвіста і псіхолага не выявілі ў выказваннях журналістаў на працягу ўсяго стрыму ніякіх прыкмет арганізацыі дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак. Дадаткова абарона задае пытанне: як Кацярына і Дар'я, трымаючы ў руках мікрафон і камеру, маглі, паводле прысуду, публічна выкрыкваць лозунгі і пляскаць у далоні.

Віталь СІЎЧЫК.

СІТУАЦЫЯ

# Ці адрэагавала нарвежская кампанія на зварот беларускіх страйкамаўцаў?

*Як стала вядома «Народнай Волі», у бліжэйшы час нарвежцы павінны прыехаць на «Беларуськалій».*

Нагадаем, што нарвежская кампанія Yara – адзін з буйнейшых сусветных пастаўшчыкоў мінеральных угнаенняў і адзін з ключавых кліентаў «Беларускай калійнай кампаніі».

Yara падкрэслівала, што з'яўляецца прыхільнікам ўсеагульных правоў чалавека і падтрымлівае Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека ў яе асуджэнні парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Апошнім часам кампанія з Нарвегіі імкнулася дасягнуць пазітыўных змен праз дыялог з кіраўніцтвам «Беларускай калійнай кампаніі» і «Беларуськалія».

Не так даўно страйкам «Беларуськалія» зноў звярнуўся да нарвежскай кампаніі з просьбай не падпісваць кантракт да выканання кіраўніцтвам прадпрыемства вылучаных страйкамаўцамі патрабаванняў.

– Перамовы з нарвежцамі працягваюцца, – кажа лідар страйкама ААТ «Беларуськалій» **Анатоль БОКУН**. – Праўда, нейкага канкрэтнага выніку пакуль няма. Наколькі вядома, Yara збіраецца высадзіць на «Беларуськалій» свой аўдытарскі дэсант. Але адказу на зварот страйкамаўцаў мы пакуль не атрымалі.

**– Наколькі вядома, прадстаўнікі нарвежскай кампаніі ўжо наведваліся ў Беларусь…**

– Так, яшчэ ў верасні мінулага года нарвежцы сустракаліся і з намі, і з генеральным дырэктарам «Беларуськалія» Іванам Галаватым. Затым прыязджалі ў снежні, зноў была размова з кіраўніцтвам прадпрыемства ў прысутнасці старшыні Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандра Ярашука.

Нагэтым пакуль усё і закончылася. Затым Іван Галаватыў заявіў, што прымуць на працу ўсіх тых страйкамаўцаў, якія звольніліся, але ж праблема не толькі ў гэтым. Не вырашаны пытанні, якія ставілі страйкамаўцы. І ніхто не будзе адначасова на працу, пакуль кіраўніцтва прадпрыемства не выканае патрабаванні.

Больш за тое – мы не прызнаём нашы звальненні, бо мы баронім свае правы, і нас фактычна вымусілі не хадзіць на працу. Страйкамаўцы захоўваюць свой кодэкс паводзін, і такі ж самы кодэкс ёсць у кампаніі Yara. Ён, дарэчы, замацаваны на паперы.

**– Калі прадстаўнікі Yara павінны прыехаць у Беларусь?**

– З-за пандэміі іх візіт адкладваецца, але, магчыма, наведаюцца ўжо ў бліжэйшы час. Патрэбна ж будзе прымаць рашэнне нарэшце таго, падпісваць кантракт альбо не.

**– Нарвежцы могуць на першае месца паставіць свае бізнес-інтарэсы…**

– Могуць, безумоўна. Пабачым, ці адпавядаюць іх справы словам. І ці будуць яны выконваць свой задэклараваны кодэкс паводзін з бізнес-партнёрамі.

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

ПОИМЕННО

# Кто входил в состав квалификационной комиссии, которая лишила адвокатской лицензии Людмилу Казак?

*В одном из предыдущих номеров «Народной Воли» был опубликован материал о том, что адвоката Людмилу Казак, которая являлась защитницей Марии Колесниковой, Минюст лишил лицензии. Читатели тут же отреагировали многочисленными звонками. Почти все абоненты просили: напечатайте пофамильный список тех, кто принимал такое решение. Пришлось связаться непосредственно с Людмилой Казак.*

*«На днях я ознакомилась с заключением квалификационной комиссии от 19 февраля этого года,* – рассказала **Людмила Казак** «Народной Воле». – *Это единственный документ, который оформляется по итогам заседания и предъявляется адвокату по его заявлению к ознакомлению. Причем копию заключения мне на руки не выдали, разрешили только выписать интересующие сведения!*

*Из заключения следует, что комиссия рассмотрела следующие материалы, касающиеся меня: постановление суда Октябрьского района Минска от 25 сентября 2020 года и постановление Мингорсуда от 10 ноября 2020 года. По результатам их изучения комиссия приняла решение о прекращении действия лицензии в связи с совершением мною проступка, не совместимого со званием адвоката., перечень которых установлен правилами профессиональной этики адвоката (совершение действий, дискредитирующих звание адвоката и адвокатуры)».*

Как голосовала комиссия? Были ли те, кто высказался против лишения Казак адвокатской лицензии, или решение принималось единогласно?

Как выяснилось, «за» было 14 голосов, «против» – всего 5.

Кто эти пятеро, которые поддержали Людмилу Казак?

*«В документе, с которым мне дали ознакомиться, указаны члены комиссии, принимавшие участие в ее заседании и голосовании,* – говорит Людмила Казак. – *Сведения о том, как голосовал каждый из членов комиссии, в заключении отсутствуют. Еще я обратила внимание на факт отсутствия персональных результатов голосования, и написала заявление, чтобы мне предоставили конкретные результаты голосования.*

*Я сама не могла видеть, кто как голосовал, потому что, когда комиссия голосует, адвокат ожидает в коридоре. Получается, для меня это было тайное голосование.*

*Также в связи с тем, что содержание заключения квалификационной комиссии не позволяет убедиться в достоверности результатов голосования, я обратилась к секретарю комиссии Шевченок с просьбой о предоставлении протокола заседания квалификационной комиссии, но мне ответили, что ведение протокола не предусмотрено».*



В заключении, с которым ознакомилась Людмила Казак, указано, что в заседании комиссии принимали участие и голосовали:

1.Старовойтов Н.М.
2.Чайчиц В.И.
3.Шевченок Е.В.
4.Андреева Н.А.
5.Бахорина Д.И.
6.Белая З.И.
7.Букато С.Н.
8.Гомонов А.А.
9.Грейбо И.С.
10.Забара А.А.
11.Пинтусова Г.Л.
12.Подлесская Д.А.
13.Плышевский И.А.
14.Релява О.С.
15.Старовойтов О.М.
16.Степанова Е.С.
17.Тищенко Ж.В.
18.Шваков А.И.
19.Якимович В.В.

*«Напротив этих фамилий стоят подписи, но как они голосовали, повторюсь, не ясно,* – комментирует Людмила Казак. – *В списке также указана* ***Михалева Татьяна Николаевна*** *(это декан юридического факультета БГУ), однако подписи напротив ее фамилии нет».*

Заместитель министра юстиции **Николай Старовойтов**, который возглавляет квалификационную комиссию по вопросам адвокатской деятельности, сказал «Народной Воле»: *«В состав квалификационной комиссии входят восемь адвокатов во главе с председателем коллегии адвокатов. И в составе комиссии адвокаты составляют большинство».* Однако Людмила Казак опровергает его слова:

*«В этом списке – всего лишь восемь адвокатов (Чайчиц В.И., Белая З.И., Букато С.Н., Бахорина Д.И., Шваков А.И., Пинтусова Г.Л., Гомонов А.А., Степанова Е.С.), а это никак не большинство, как утверждает Николай Старовойтов. Е.Шевченок, Д.Подлесская, И.Плышевский, О.Релява, В.Якимович – это представители Министерства юстиции, Ж.Тищенко – глава комиссии по помилованию Администрации президента, О.Старовойтов – директор юридического колледжа, А.Забара – заместитель председателя Верховного суда, И.Грейбо – представитель Генпрокуратуры, а кто такая Н.Андреева – я не знаю. Кстати, состав комиссии отличается от того, который рассматривал вопрос о прекращении лицензии известного адвоката* ***Александра Пыльченко****».*

В ТЕМУ

### Кто теперь защищает Марию Колесникову?

Адвокаты **Александр Пыльченко** и **Людмила Казак** остались без лицензий. Какой защитник теперь работает с Марией Колесниковой?

*«У Марии остался один защитник, с которым мы работали вдвоем с декабря минувшего года,* – сказала Людмила Казак «Народной Воле». – *Фамилию его пока называть не будем».*

Марина КОКТЫШ.

**На фото: отец Марии Колесниковой и адвокат Людмила Казак.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# ЧАЦВЁРКА,

## якая, паводле версіі Следчага камітэта, рыхтавала ў Гомелі «масавыя беспарадкі», але апынулася за кратамі

*Пару дзён таму Следчы камітэт змясціў на сваім сайце паведамленне пра завяршэнне расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да чатырых давераных асоб Святланы Ціханоўскай.*

*«Праваахоўнікі атрымалі інфармацыю аб тым, што асобы з найбліжэйшага атачэння Святланы Ціханоўскай рыхтуюцца да масавых беспарадкаў і захопу будынкаў дзяржаўных органаў на тэрыторыі Гомеля. Для ажыццяўлення плана апошнія шукалі ахвотных сярод былых вайскоўцаў, супрацоўнікаў органаў унутраных спраў і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. З мэтай прапрацоўкі і падрабязнага планавання сваіх дзеянняў абвінавачаныя 5 жніўня арганізавалі сустрэчу, на якой прысутнічала ў тым ліку сама Ціханоўская»,* – адзначаецца ў паведамленні.

Асноўных фігурантаў затрымалі з 6 па 8 жніўня. Афіцыйна іх прозвішчы не агучаны. Але вядома, што ў Гомелі даверанымі асобамі Ціханоўскай былі **Юрый Уласаў** і **Таццяна Канеўская**. Яны сядзяць у мінскім СІЗА. За кратамі знаходзяцца таксама актывісты «Страны для жизни» **Аляксандр Шабалін** і **Дзмітрый Івашкоў**. Хутчэй за ўсё, размова ідзе менавіта пра іх.

З абнародаванай фанаграмы, якая мае прыкметы нарэзкі, вынікае, што Гомель прадстаўляецца падчас сустрэчы як *«пратэстны горад, гатовы на кардынальныя рэчы».*

Чуваць мужчынскі голас: *«Падыходзіць да выканкама, выклікаць начальства, патрабаваць пераліку* (відавочна, галасоў)».

Жаночы голас нечакана дадае: *«Наша задача будзе ўсё-такі захоп выканкама».*

Мужчына: *«План такі – прыбраць усіх кіраўнікоў адміністрацый, паставіць намеснікаў пад кантроль і на кожны раён паставіць па адным з упаўнаважаных прадстаўнікоў... Што людзі выйдуць у Гомелі, ну, гэта мы ўжо не сумняваемся. Не меншая колькасць, чым была тады* (магчыма, маецца на ўвазе 10-тысячны чарнобыльскі мітынг 1990 года). *Значыць, адзінае пытанне, як усё гэта скаардынаваць, каб не атрымалася...* (фраза абрываецца)».

Абмяркоўвалася і праблема рэсурсаў: патрэбны мегафоны, камплекты рацый, газавыя балончыкі, электрашокеры ў выглядзе ліхтарыкаў, фінансаванне.

На той сустрэчы, як сведчаць відэакадры, прысутнічала і Святлана Ціханоўская. Але яна сышла, як толькі ўдзельнікі сталі абмяркоўваць нейкія магчымыя канкрэтныя дзеянні. Перад развітаннем яна выказала сумненне ў рэальнасці планаў удзельнікаў сустрэчы.



### Агітацыя і трохступеньчаты ізалятар

Драматычна складваўся ўдзел у выбарчай кампаніі давераных асоб Ціханоўскай.

7 мая мінулага года 52-гадовага Юрыя Уласава затрымалі на плошчы Леніна за пікет салідарнасці з арыштаваным Сяргем Ціханоўскім і асудзілі на 15 сутак. Як расказваў Уласаў, чарговыя пятнаццаць «накінулі» зноў жа паводле артыкула 23.34 КаАП – «Парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення масавых мерапрыемстваў». Раней Юрый і яго паплечнікі выпусцілі відэаролік, у якім выказваліся супраць удзелу Аляксандра Лукашэнкі ў выбарах прэзідэнта. Гэта было расцэнена як заклік да несанкцыянаванай масавай акцыі.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Пасля трыццаці сутак Уласава вывезлі з ІЧУ на ўскрай горада і адпусцілі. У пастку. На волі ён быў літаральна паўтары хвіліны. Як толькі Юрый палез у сваю торбу па тэлефон, са спіны на яго наляцелі трое ў цывільным з крыкам: «Чаму вы парушаеце?!» Ну і «павязалі». Адвезлі ў Савецкі РАУС, склалі пратаколы – нібыта ён мачыўся на вуліцы і не падпарадкаваўся міліцыі.

У ІЧУ Уласаў сядзеў у адзіночнай камеры ў поўнай ізаляцыі, трымаў нейкі час галадоўку, страціў 12 кілаграмаў вагі.

Пасля 45 сутак адсідкі Уласаў уключыўся ў перадвыбарную агітацыю за Ціханоўскую. Але аказалася, што агітацыйныя пікеты можна праводзіць толькі з 8 раніцы альбо на змярканні – пасля 21 гадзіны. У выканкамах тлумачылі, што іншы час усе пляцоўкі заняты агітатарамі за Лукашэнку.

Пікеты Уласаў арганізоўваў у райцэнтрах рэгіёна часцей за ўсё разам з Таццянай Канеўскай, шматдзетнай актывісткай руху «Маці-328», экс-кандыдаткай у Палату прадстаўнікоў, якая канкуравала на парламенцкіх выбарах з начальніцай упраўлення па ідэалогіі аблвыканкама.

Нягледзячы на розныя перашкоды, на пікеты «за Ціханоўскую» прыходзіла нямала людзей. А ў самім Гомелі мітынг Ціханоўскай-Калеснікавай-Цапкалы сабраў каля 10 тысяч чалавек. Такой колькасці выбаршчыкаў на адным мітынгу мясцовая гісторыя не ведала.

7 жніўня Юрыя Уласава затрымала міліцыя, яго змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання. Потым стала вядома, што Юрыя перавезлі ў СІЗА на Валадарскага ў Мінску і завялі крымінальную справу «за масавыя беспарадкі» на падставе артыкула 293 Крымінальнага кодэкса.

Таццяну Канеўскую міліцыя затрымала 8 жніўня. Звыш паўтара дзясятка міліцыянераў і АМАП удзельнічалі ўператрусе ў доме Канеўскіх. Да агітацыйнай кампаніі Таццяна збірала на пікетах подпісы за Ціханоўскую. У чэрвені яе ўжо штрафавалі за «актыўны ўдзел у несанкцыянаванай акцыі» ў падтрымку арыштаванага Сяргея Ціханоўскага. Гэтым разам маці чатырох сыноў вінавацілі ў дробным хуліганстве і непадпарадкаванні. 10 жніўня адміністрацыйны пратакол разглядалі ў судзе Савецкага раёна. Суддзя вярнула пратакол на дапрацоўку, а саму Таццяну адпусціла, паколькі ў сям'і ёсць непаўнагадовы сын. Але як толькі яна пайшла да канвойнай машыны па свае рэчы, яе зноў затрымалі. Два дарослыя сыны Канеўскай спрабавалі даведацца пра лёс маці ў ІЧУ, але іх схапілі людзі ў цывільным быццам за нейкія парушэнні.

Праз колькі часу сям'я даведалася, што Таццяна Васільеўна пераведзена ў мінскі СІЗА і праходзіць па справе аб масавых беспарадках.

Перад выбарамі затрымалі і Аляксандра Шабаліна, які быў у камандзе Ціханоўскай. Ён збіраўся ехаць на агітацыйны пікет. За кратамі Аляксандр ужо 274 дні. Ён таксама абвінавачаны ў арганізацыі масавых беспарадкаў і знаходзіцца ў СІЗА №1.

У нядзелю 27 верасня ў Гомелі на маршы пратэсту, дзе АМАП ужываў для разгону пярцовы газ, святлошумавыя ракетніцы і халастыя стрэлы ўверх, быў затрыманы Дзмітрый Івашкоў. Першапачаткова яго пакаралі адміністрацыйным арыштам за ўдзел у недазволеным маршы – далі 20 сутак і «накінулі» яшчэ 7 сутак, якія ён «не дасядзеў» у жніўні. А неўзабаве яго бацькі даведаліся, што Дзмітрый апынуўся ў сталічнай турме. Супраць яго распачата крымінальная справа за «масавыя беспарадкі».

### «Падтрымлівалі толькі мірныя метады»

З абнародаванай інфармацыі СК бачна, што матэрыялы крымінальнай справы пра масавыя беспарадкі перададзены ў пракуратуру для накіравання ў суд. Які гэта будзе суд, пакуль не вядома. Праваабаронцы і актывісты не выключаюць, што ён можа адбыцца і ў Гомелі.

Следчы камітэт паведаміў таксама, што абвясціў Святлану Ціханоўскую ў вышук, дакументы на яе экстрадыцыю перададзены ў Генеральную пракуратуру.

Стала вядомай і рэакцыя Ціханоўскай на абвінавачанні. Праз сваю прэссакратарку Ганну Красуліну высунутыя абвінавачанні экс-кандыдатка ў прэзідэнты адпрэчыла.

*«Як паказваюць больш за 200 дзён беларускага пратэсту, Святлана Ціханоўская і яе каманда падтрымлівалі толькі мірныя метады»,* – зазначыла Красуліна.

Відавочна, што пратэстныя дэманстрацыі і маршы каманда Ціханоўскай не лічыць масавымі беспарадкамі, а захопу будынкаў выканкамаў ці адміністрацый нідзе не было. У Гомелі, у прыватнасці, маршы пратэсту праходзілі паўз гарадскі і абласны выканкамы, але ніхто не набліжаўся нават да дзвярэй гэтых устаноў, не кажучы ўжо пра нейкія гвалтоўныя дзеянні.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

**На здымку: вераснёўскі марш пратэсту ў Гомелі.**

В ТЕМУ

# Начерно, шепотом

Итак, Следственный комитет Беларуси опубликовал видеозапись, на котором женщина, похожая на Светлану Тихановскую, надевает пиджак и исчезает. В ситуации политико-правовой фантасмагории после этого ей могло бы быть запросто предъявлено обвинение в колдовстве. И это уже не выглядит саркастическим преувеличением. Но пока речь идет всего лишь о традиционных «массовых беспорядках».

Самое «страшное», что звучит на этом видео с неряшливыми монтажными склейками, это сказанные нерешительным полушепотом фразы *«Надо захватывать административные объекты»* и *«Нам нужен силовой блок»*. Как раз на этой второй фразе, произнесенной неким мужчиной, Тихановская встает и растворяется в воздухе.

Как утверждается, разговор состоялся 5 августа прошлого года. Может, кто-то и считал, что «нужен силовой блок». Но штаб Тихановской даже сейчас настаивает: не надо, не нужен! Тихановская до сих пор говорит о необходимости исключительно «мирного протеста», хотя в нынешних условиях это выглядит чем-то вроде «революционного самоубийства». А тогда ей вообще не верилось, что белорусы способны на сколько-нибудь длительный протест. Она с какой-то презрительной горечью говорит: *«Ну сколько они простоят, эти белорусы?»* Сетуя на то, что после ареста ее мужа, Сергея Тихановского, за него *«никто, ни один не вышел».* Не выйдут и за нее, говорит она. И ей самой хочется спрятаться: *«Я лягу под одеяло, накроюсь и никуда не выйду».* Так она и готовила «массовые беспорядки» – спрятавшись дома под одеялом.

Следственный комитет ничуть не смущает, что это совсем не похоже на план штурма Зимнего. Ведомство рапортует, что передало в Генеральную прокуратуру документы на экстрадицию Тихановской и завершило расследование уголовного дела в отношении ее четырех доверенных лиц. Участники зафиксированной на видео встречи (по крайней мере часть из них) были задержаны в период с 6 по 8 августа. Им предъявлено обвинение по части 1 статьи 13 – части 2 статьи 293 УК Беларуси (приготовление к участию в массовых беспорядках) и по части 1 статьи 13 – часть 1 статьи 292 (приготовление к захвату зданий).

Пресс-секретарь Тихановской Анна Красулина в разговоре с «Медиазоной» оправдывается: да, мол, есть часть белорусов, которые поддерживают «радикальные меры», Тихановская и с такими общалась, но сама она не такая. Хотя стоило бы помнить, что если ты оправдываешься, когда оправдываться не за что, – значит, ты слабее и в глазах других людей ты уже в чем-то виноват. Лучше было бы вспомнить о реально тяжком преступлении, совершенном в стране: захвате и удержании власти неконституционным путем, повлекшем гибель людей (часть 3 статьи 357 УК РБ – с наказанием вплоть до смертной казни). На худой конец пошутить, что в таком случае Лукашенко виновен в том, что способствовал бегству из страны преступника. Да еще и с использованием государственных средств. Ведь, по его словам, Тихановскую вывезли *«по ее желанию»* в Литву *«под охраной»*, к тому же *«с госпредприятия взяли 15 тысяч долларов и отдали ей».*

Пока штаб Светланы продолжает оправдываться и говорить о «мирном протесте», в стране без устали работает репрессивный конвейер. Ни удивляться, ни возмущаться правовому дефолту почти ни у кого не осталось эмоциональных сил. Не говоря уже о том, что некому протестовать против этих бесконечных приговоров. Теперь уже можно обвинять даже посмертно, как это было в случае Геннадия Шутова, убитого в августе бойцом сил специальных операций в Бресте. Сроки по приговорам достигли 10 лет, и теперь можно ожидать повышения потолка. В Беларуси появился, возможно, самый юный политзаключенный в мире: 16-летнего парня приговорили к 5 годам колонии. В группу пенсионеров, которые собрались почитать книги на белорусском языке в пригородной электричке, был внедрен агент, благодаря которому они все были задержаны. Всего и не перечислить.

На этом фоне арест на полгода или два года с отсрочкой воспринимаются с облегчением. Даже если их дали абсолютно ни за что. Именно такой приговор вынес суд 2 марта журналистке Екатерине Борисевич и доктору Артему Сорокину по «делу о ноль промилле»: они сделали публичными сведения об отсутствии алкоголя в крови Романа Бондаренко. Убитого при участии вип-персон, разъезжавших по минским дворам с ящиком «Массандры» от российского посла. Романа забили до смерти. Был у него в крови алкоголь или не было, это никак не влияло бы на квалификацию преступления. Убивать нельзя ни трезвых, ни пьяных. Но о том, что Роман был в состоянии алкогольного опьянения, зачем-то упорно твердили официальные лица и пропагандисты. Что ж, приговор за «разглашение врачебной тайны» Борисевич и Сорокину подтвердил: они врали. А вот убийцам стоит помнить, что, если преступление совершено ими в состоянии опьянения, это отягчающее обстоятельство.

**Дмитрий ГАЛКО.**

*(Грани.ру)*

МУЖНАЯ ПАЗІЦЫЯ

## Руслан ПАРФЁНАЎ, былы баец спецназа:

# «Я быў і застаюся на баку справядлівасці»

З сакавіка ў Мазыры старшыня суда **Анатоль Стрэльчанка** прызнаў вінаватым ва ўдзеле ў «масавых беспарадках» Руслана Парфёнава, актывіста «Страны для жизни» і сябра ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай, і пакараў яго 5 гадамі зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Суд быў закрыты.

У мінулым годзе Руслан збіраў подпісы за вылучэнне Святланы Ціханоўскай кандыдатам у прэзідэнты, арганізоўваў пікеты, вёў анлайн-трансляцыі на YouTube-канале «Мозырь для жизни».

Са звестак, якія трапілі да грамадскасці, Парфёнава вінавацілі ў вырабе металічных «вожыкаў» для спынення транспарту. Адразу пасля яго затрымання 8 жніўня на тэлеканале АНТ паказалі сфальсіфікаваны няўклюдны сюжэт, дзе ў ролі Руслана знялі невядомага маладога чалавека.




У апошнім слове перад прысудам Парфёнаў заявіў, што «масавыя беспарадкі» адбыліся **«з боку так званых праваахоўных органаў у дачыненні да грамадства, якое мірна выказвала свае меркаванні і перакананні»: «Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, страцілі ўсякую абарону сваіх правоў і свабод, намі маніпулююць праз страх і пагрозы… Калі раней мы гаварылі пра прававы дэфолт, то цяпер гэта нагадвае тэрор. Рэпрэсіўная машына не можа спыніцца… Я, былы баец спецназа, сын рабоча-сялянскай сям'і, не збіраўся быць палітвязнем. Я проста хацеў абараніць такіх жа людзей, як і я, якія мне пішуць, ад беззаконня. І ў гэтым мая віна. Я быў і застаюся, незалежна ад прысуду, на баку справядлівасці – як грамадзянін, як салдат, як мужчына, бо мой дэвіз застаецца нязменным: «АБАВЯЗАК, ГОНАР, АЙЧЫНА».**

Рукапісны тэкст апошняга слова Парфёнаў перадаў на волю.

ПАД ПРЭСАМ

# Андрэй Бастунец пойдзе ў Следчы камітэт

*Старшыню Беларускай асацыяцыі журналістаў запрасілі ў Следчы камітэт на 10 сакавіка.*

*У арганізацыі спадзяюцца, што яму вернуць пячатку, статутныя дакументы і нарэшце разблакіруюць офіс.*

На мінулым тыдні Беларуская асацыяцыя журналістаў звярнулася ў Следчы камітэт са зваротам, у якім прасіла разблакіраваць доступ у офіс арганізацыі, а таксама вярнуць пячатку і статутныя дакументы, якія знаходзіліся ў сейфе.

Андрэю Бастунцу пазванілі са Следчага камітэта і прапанавалі з'явіцца раніцай 10 сакавіка, каб узяць удзел у аглядзе таго, што знеслі разам з сейфам.

Як паведамляла "Народная Воля", 16 лютага паводле пастановы Следчага камітэта ператрусы прайшлі ў офісе БАЖ, а таксама ў некаторых супрацоўнікаў. З таго часу офіс застаецца апячатаным, рахунак арганізацыі арыштаваны. Гэта істотным чынам перашкаджае статутнай дзейнасці арганізацыі, з'езд якой запланаваны на 16 красавіка.

Ці можа адбыцца так, што пасля візіту ў Следчы камітэт Бастунец апынецца за кратамі?

*"Выключаць нічога нельга,* – сказаў "Народнай Волі" Андрэй Бастунец. – *Але мы самі пісалі хадайніцтва аб вяртанні пэўных дакументаў з сейфа, у тым ліку і бухгалтарскіх. Спадзяюся, што яны вырашылі пайсці нам насустрач. Але што адбудзецца да паходу ў Следчы камітэт ці пасля, канешне, прагназаваць складана".*

**Марына КОКТЫШ.**

**100 РАДКОЎ**

**Міхася СКОБЛЫ**

# «Паўлінка» без аншлагу

Хто толькі не выступаў у Купалаўскім тэатры пасля таго, як з яго звольнілася амаль уся трупа на чале з галоўным рэжысёрам Мікалаем Пінігіным! І фінбергаўскі аркестр, якому без розніцы, дзе іграць, хоць на маскоўскім тэле-шоў "Поле чудес". І яшчэ больш непераборлівыя "Харошкі", якія спадзяваліся ў разбураным тэатры выканаць план па выступленнях. І нейкія шарамыжнікі з Баранавічаў з такім песенным рэпертуарам, што хоць вушы затыкай…

І вось нарэшце новапрызначанае кіраўніцтва тэатра абвясціла пра тэатральную прэм'еру. 3 сакавіка ў Купалаўскім давалі "Паўлінку". Шматлікія скептыкі пацiскалі плячыма – хто будзе выконваць ролі, калі ў тэатры засталося ўсяго з дзясятак дзейных акцёраў? Умеркаваныя аптымісты даводзілі – правалу не будзе, бо за сто з гакам гадоў купалаўскую камедыю ставілі ўсе, каму не лянота, – і студэнты ў Пецярбургу, і сялянская моладзь у вясковым гумне.

Дарэчы, адно з такіх гумнаў – у вартым жалю выглядзе – стаяла ўсяго за некалькі кіламетраў ад маёй роднай хаты на Зэльвеншчыне, і нас, школьнікаў, вадзілі туды на экскурсію. Здавалася б, пасля таго, як Нацыянальны тэатр №1 улады ледзь не ператварылі ў напаўразбуранае гумно, дзе замест класікі са сцэны гучаў прыблатнёны шансон накшталт "Сукі-разлукі", мяшчанская цікавасць да доўгачаканай прэм'еры забяспечыць поўны аншлаг.

Але аншлагу не было. Праглядваліся вольныя месцы ў партэры, бельэтаж быў запоўнены напалову, балкон – на адну траціну. І гэта першая прэм'еры на маёй памяці з незапоўненай дарэшты залай. Настальгічна ўспамінаю, як складана было купіць квіткі на "Пінскую шляхту", як не хапіла прыстаўных крэслаў на "Каралі Ліры", як усё прытэатральнае грамадства ахопліваў здаровы ажыятаж перад "Тутэйшымі"…

Што ж, няма таго, што раньш было. Прыгледзімся больш падрабязна да таго, што ёсць, што дзве з паловай сотні гледачоў пабачылі на прэм'еры.

Перад пастаноўшчыкамі спектакля (за аснову быў узяты варыянт рэжысёра Льва Літвінава, што і значылася ў праграмках) стаяла складаная задача – аўтарам п'есы вызначаны ўзрост галоўных герояў, а акцёраў у такім узросце ў тэатры не хапае. Таму ролю пяцідзесяцігадовага Пранцыся Пустарэвіча давялося выконваць васьмідзесяцішасцігадоваму Генадзю Аўсяннікаву. У камедыі Сцяпан Крынцікі равеснік Пустарэвіча, а на сцэне, у выкананні Васіля Сушыцкага, ён больш падыходзіў яму ў сыны. Першы з усіх сіл маладзіўся, другі, каб падыграць Народнаму артысту СССР і БССР, ста́рыўся, а гарманічнага дуэта так і не атрымалася.

Тое ж самае ўзроставае несупадзенне назіралася ў Пустарэвіча з жонкай Агатай – яе ролю выконвала Тамара Міронава. Помніцца, пераўвасобіцца ў бабулю ў яе атрымалася ў даўнім спектаклі "Не мой". У "Паўлінцы" ж, як мне падалося, удалося не зусім. Да таго ж, яна яўна перабрала з грубасцю, з аглушальным рогатам, ад якога аж трэслася вялізная люстра над партэрам. Яе гераіня, не выпускаючы з рук тоўстае пугаўё і час ад часу знаходзячы яму прымяненне, нагадвала (з улікам сучасных рэалій) нейкага амапаўца ў спадніцы. Асабліва гэта кідалася ў вочы на фоне больш ціхмянай, праз меру напамаджанай і абвешанай зусім не старасвецкай біжутэрыяй Альжбеты (Вольгі Няфёдавай).

Куды больш натуральна глядзелася на сцэне моладзь – Паўлінка (студэнтка Беларускага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Анастасія Варанкова) і Якім Сарока (Ілля Крук). Размеркаванне ў Купалаўскі Анастасіі (пры надзвычайным кадравым дэфіцыце), вядома ж, забяспечана, а Іллі я мушу выказаць два пажаданні. Па-першае, пазбавіцца ад моўных агрэхаў ("добры вечар панне *Паўлінке*", "а не магла ты мне *сразу* сказаць" і г.д.). Па-другое, у наступных паказах скінуць з сябе шарачковы пінжачок (падобны на ўніформу фабзайца), пад якім праглядалася беларуская вышыванка.

Найбольш пераканаўчым, каб не адно "але", мог атрымацца сцэнічны вобраз Адольфа Быкоўскага ў выкананні Міхаіла Світы. Фанабэрыстага, карыкатурна выпісанага Купалам шляхцюка ён сыграў, можна сказаць, бліскуча – ад бліскучых галёш пачынаючы, якія здолеў зрабць удзельнікамі спектакля. Але, думаецца, спецыяльна, пастаноўшчыкі апранулі яго па схеме б-ч-б – белыя порткі, белая кашуля і чырвоная камізэлька. Прайшоўся б пан Быкоўскі ў такім выглядзе па цэнтры Мінска – абавязкова трапіў бы ў ІЧУ на Акрэсціна.

Такім чынам, бел-чырвона-белы пан Быкоўскі і бачыцца мне ці не галоўным палітычным пасылам новапастаўленай "Паўлінкі". На фоне штодзённых затрыманняў за бел-чырвоныя парасоны, за бел-чырвоныя фіранкі і жалюзі, за бел-чырвоныя сняжынкі на вокнах *так* апрануты карыкатурны герой успрымаецца адназначна. Успрымаўся адпаведна ён, відаць, і галоўным гледачом, які наведаў разгромлены тэатр незадоўга да прэм'еры. Так што пастаноўшчыкі з поўным на тое правам могуць чакаць на ганаровае званне з рук таго самага гледача. А што – дагадзілі.

Дагадзілі яны і прыдуманым, высмактаным з пальца фіналам, які ў "Паўлінкі" з'явіўся даўно, па волі згаданага ўжо Льва Літвінава (памёр у 1963 годзе). У Купалы ў канцы п'есы Паўлінка голасна ўсклівае: "Якімку арыштавалі! Маю ясную зорачку арыштавалі! Сляпыя звяры!!!". Гэтыя словы ў новую пастаноўку не трапілі, відаць, за "экстрэмісцкі" падтэкст. Напэўна, каб не нагадваlі публіцы пра больш за трыццаць тысяч арыштаваных пратэстоўцаў па ўсёй краіне. А то нагадаеш – і атрымаеш неспадзяваную рэакцыю гледачоў. Як было, напрыклад, у спектаклі "Раскіданае гняздо" – акцёр выбягае на авансцэну і з ашалелымі вачыма лямантуе: "Бацька павесіўся!". А ў адказ – авацыя…

Варта сказаць, што трагічны фінал у камедыі бянтэжыў рэжысёраў і раней. Купалу нават угаворвалі яго перапісаць, маўляў, навошта вясёленькую п'есу заканчваць арыштам і беспрытомнай Паўлінкай. Але Купала настойваў на сваім фінале. Катэгарычна. І рэжысёры былі вымушаны выконваць аўтарскую волю.

Купалы няма – і новым пастаноўшчыкам не было каму запярэчыць. Новая-старая "Паўлінка" заканчваецца прыцягнутым за вушы, не выпісаным па тэксце хэпі-эндам. Альжбета Вольгі Няфёдавай проста выходзіць на сярэдзіну сцэны і абвяшчае: "Паўлінка з Якімам – і дзякуй Богу!". Пасля чаго ўсе акцёры выходзяць на паклон.

Авацый і паўторных выхадаў не было. Рэжысёра на сцэну не выклíкалі. Пакуль першыя шэрагі даволі бязладна выгуквалі "спасибо!", заднія паспяшаліся ў гардэроб.

І такую – дапісаную за Купалу, з відавочнымі момантамі палітычнай кан'юнктуры – "Паўлінку" тэатр сабраўся паказваць ледзь не праз дзень – толькі ў сакавіку дзевяць разоў. І, хутчэй за ўсё, знойдуцца аматары такога *dзівадла* (так па-чэшску тэатр). Я ж туды больш не хадок – да лепшых часоў. Паколькі пазаўчарашняя безаншлагавая прэм'ера пераканала мяне толькі ў адным – у сённяшняй Беларусі Янка Купала ў тэатры свайго імя фактычна прызнаны экстрэмістам. З чым я і віншую ўсю яго малалікую, ледзь жывую трупу.

**ПАМЯЦЬ**

# ПІЛІГРЫМ БЕЛАРУШЧЫНЫ

## 1

Яраслаў Пархута – з ліку маіх найбольш любімых беларускіх пісьменнікаў. Ды не таму, што ён быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй імя Кастуся Каліноўскага, а таму, што быў вельмі чуйны да людскога болю, да народных бед і ўмеў мабілізаваць Богам дадзены талент, нягледзячы на самыя складаныя абставіны. Наканаванай справе служыў самаахвярна. Мала хто з чытачоў ведае, што ён перажыў клінічную смерць, калі яму было крыху за шэсцьдзясят.

Яраслава не раз білі маланкі інсультаў ды інфарктаў, а ён, падымаючыся пасля чарговага ўдару, яшчэ з большым азартам браўся за справу ці, больш дакладна, працягваў яе – ішоў да новых сваіх твораў-гімнаў Беларусі, твораў-дакументаў роднай гісторыі, твораў-услаўленняў мужных герояў, твораў-споведзяў растрывожанага сэрца і нялёгкага роздуму, твораў-абвінавачанняў зла, што нявечыць людскія душы, і працягваў у часіны бізнесу і камерцыі шчодра раздаваць адзінае сваё багацце – пранікнёныя кнігі пра свой народ. Намаляваны ім працавіты, майстравіты і таленавіты гусляр дзед Максім (у творы «Апошні гусляр») чымсьці добра нагадвае яго самога. Пісьменніку, чалавеку з роду плугароў, баліць душа не толькі за знявечаную зямлю, а і за ўсё, што зводзіцца, – за стан роднай мовы, за нашу духоўнасць, за народныя святыні, паламаныя лёсы і забраныя жыцці сыноў і дачок шматпакутнай Бацькаўшчыны. Сярод шматлікіх герояў твораў Яраслава Пархуты – яго славуты зямляк, кіраўнік паўстання 1794 года Тадэвуш Касцюшка, павешаны Мураўёвым у Вільні народны герой Кастусь Каліноўскі, знішчаныя злачынным сталінскім рэжымам легендарны пісьменнік, акцёр, рэжысёр, мастак Уладзіслаў Галубок і знакаміты вучоны-мовазнаўца, публіцыст, акадэмік НАН Беларусі Браніслаў Тарашкевіч, пакутнік XX стагоддзя Сяргей Новік-Пяюн, які спазнаў шмат гадоў няволі як пры паляках, так і пры немцах і маскалях, «палескі рабінзон» Іван Бушыла, які, ратуючыся ад сталінскага генацыду, сорак два гады (!) пражыў у глухім лесе. Як літаратар ён майстар на ўсе рукі. Пачынаў сваю творчасць з цудоўных вершаў і казак.

Аднойчы сваю пісьменніцкую ўвагу Яраслаў Пархута засяродзіў на Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі (Мастоўскі раён), створаным вялікім энтузіястам, настаўнікам беларускай мовы, заслужаным дзеячам культуры Беларусі Алесем Мікалаевічам Белакозам і яго вучнямі. Унікальнасць гэтага астраўка краязнаўства, яго высокая культура паказаны пісьменнікам бездакорна.

...Гаспадар музея вядзе экскурсію, паказвае стэнды, цікавыя матэрыялы, распавядае пра іх. Адзін з першых стэндаў прысвечаны Францішку Скарыну. Нечаканы экспанат сюды прыйшоў з замежжа: праслаўлены наш спявак Міхась Забэйда-Суміцкі (родам з Пружаншчыны), які пражываў у Празе, прыслаў буклет-альбомчык з партрэтамі чэшскіх першадрукароў, асветнікаў, пісьменнікаў, у якім чэхі першым змясцілі партрэт Скарыны. Наступная экспазіцыя – пра паўстанне К.Каліноўскага. «У нашай мясцовасці дзейнічала каля трох тысяч паўстанцаў, – кажа А.Белакоз. – Мы ганарымся і тым, што бацька Кастуся Каліноўскага паходзіў адсюль – з вёскі Рэпля». Алесь Мікалаевіч паказвае рэпрадукцыі карцін мастака П.Сергіевіча, прысвечаных гераічнай дзейнасці Каліноўскага. «А тут, бачыце, ручка, якою Уладзімір Караткевіч




стварыў раман пра паўстанне Кастуся Каліноўскага «Каласы пад сярпом тваім», – гаворыць ён і знаёміць з наступнымі стэндамі, з матэрыяламі пра Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча. Тут і лісты-ўспаміны Зоські Верас – пра М.Багдановіча. Наведвальнікі музея часта здзіўляюцца: няўжо яна сама пісала нам успаміны? Няўжо гэта арыгіналы?

«Так, пісала. Іх шмат, успамінаў Зоські Верас, – заўважае А.Белакоз. – Яна шмат зрабіла для Гудзевічаў».

## 2

Адну са сваіх кніжак – «Крыніца ёсць у родным краі» – Яраслаў падараваў мне з такім аўтографам: «Суседу па фазэндзе, земляку і аднадумцу на добры ўспамін аб пілігрыме». Яраслаў Пархута не толькі стаўся выдатным творцам і краязнаўцам, ён быў неардынарным чалавекам, непаседлівым, рухавым, мэтанакіраваным і вельмі ўмелым. Я меў радасць часта з ім сустракацца на лецішчы. Бачыў я, напрыклад, як займаўся ён пляценнем кошыка. Няспешна і акуратна згінаў два абручы, дапасоўваў да іх вочкі, устаўляў рабрынкі, і тады з ракітавых дубчыкаў на рабрыстай аснове «ткалася» роўненькае густое палатно. У выніку атрымліваўся на заглядзенне прыгожы кош. А як інакш, калі Яраслаў змалку любіў лес, добра ведаў грыбныя мясціны (ягадныя – гэтаксама), сам займаўся ціхім паляваннем і прышчапіў гэтую любоў дзецям – сыну Віктару і дочкам Кацярыне і Волечцы, а пазней і зяцю Аляксандру. Дарэчы, ад ягонай Каці я даведаўся пра лясную імшару, багатую на чарніцы, і кожнае лета збіраю там гэтыя каштоўныя, гаючыя ягады. Я ніколі не бачыў Яраслава з ягадамі, затое з поўным кошыкам праўдзівых (так у мяне на радзіме называюць баравікі) – даволі часта. Мабыць, таму і адпаведная тэма ў Яраслава Пархуты нярэдкая: «Праўдзівікі», «Грузды», «Апенькі», «Позняя грыбы», «Размова з грыбамі»... Здавалася б, хіба можна размаўляць з грыбамі? Яшчэ як можна! І нават вельмі ласкава. Адну такую размову пісьменнік падслухаў на выхадзе з лесу, дзе бабулька перабірала баравічкі, і яскравым уражаннем ад пачутага хараша падзяліўся з чытачамі...

Любоў да лесу не замінала яму быць і цудоўным садоўнікам. Дзякуючы толькі яму я навучыўся прышчапляць дзічкі яблынь і груш. Аднойчы ён прынёс мне паўжмені яблыневых чаранкоў розных летніх гатункаў і паказаў на маю дзічку, што расла каля самай вуліцы: «Прышчапляй, пасля – як знойдзеш...» Прыжыліся ўсе тры летнія гатункі, яблыня разраслася і кожнае лета так родзіць, што яблыкамі частуем і суседзяў, і прахожых. Цяпер светла ўспамінаю Яраслава Сільвестравіча, не толькі беручы ў рукі і чытаючы ягоныя кнігі, а калі сад цвіце, і калі адцвітае, засяваючы зямлю пялёсткамі, а пазней адорвае пладамі, і калі з дрэў ападае лісце, і калі самотны сад патанае ў снезе...

А пазнаёміўся я з Яраславам Пархутам у 1965 годзе, калі ён працаваў старшым рэдактарам Брэсцкай студыі тэлебачання. У тым ужо далёкім годзе была ў нас адна сумесная паездка, якая і тады выклікала і цяпер выклікае ў мяне ўсмешку. Напярэдадні нарады перадавікоў сельскай гаспадаркі абласное начальства вырашыла мабілізаваць вопытных літаратараў і журналістаў на стварэнне вершаванага тэксту для піянерскага прывітання вартых пашаны працаўнікоў сяла. Для такой адказнай місіі і паклікалі ў аблвыканкам Яраслава Пархуту, Міхася Рудкоўскага, Анатоля Гарая і мяне. Старэйшы з нас Яраслаў сказаў загадчыку аддзела: «Ведаеце, у горадзе зашмат шуму, грукату, ад чаго ўцякае муза. Мы мусім акунуцца ў цішыню. Дайце нам камандзіровачку ў Белавежскую пушчу».

Калі мы апынуліся ў Камянюках, у гасцініцы вядомага запаведніка, адразу прыступілі да справы. За кароткі час зрабілі чарнавы варыянт даручанага нам задання і пайшлі на ўскраек пушчы па грыбы. Назбіралі, занеслі "ўлоў" на кухню рэстарана, дамовіліся, каб кухаркі пасмажылі. Падчас вячэры мы пачуваліся шляхтаю. Пад жаданую закусь заказалі па сто грамаў армянскага каньяку (нам жа ў Брэсце выдалі камандзіровачныя!). Добра прыгатаваныя і пададзеныя нам грыбы стаялі ў спецыяльнай пасудзіне і так пахлі свежа, што на наш стол не без зайздрасці пазіралі з-за суседніх сталоў.

## 3

Яраслаў называў сябе пілігрымам. Не ведаю, ці ад прыроды, ці ад адукацыі стаўся такім. Па прафесіі быў ён журналіст з ярка выражаным краязнаўчым ухілам. Натуральна, падарожжы па Беларусі прыносілі яму радасць і плён. У выніку з'явілася мноства твораў пра мясціны, дзе нарадзіліся ці жылі слынныя людзі зямлі нашай, пра саміх людзей: і мудрых, і мужных, і цягавітых.

Яраслава Пархуту цікавілі і вабілі і вядомыя радовішчы, тыя вытворчасці, якія давалі краіне важкі рубель (здабыча беларускай нафты, калійнай солі, граніту, радону...), і ўсё незвычайнае, часам палярнае: скажам, самая высокая і самая нізкая геаграфічныя кропкі рэспублікі, самая паўночная і самая паўднёвая, самая ўсходняя і самая заходняя вёскі, самы ўнікальны дуб, буйнейшая ў Еўропе калонія чорных чапляў, месца падзення Брагінскага метэарыта… Яго непакоілі праблемы экалогіі, выкарыстання зямлі, побыту сялян, стан нашых лясоў, малых рэк, помнікаў прыроды. Вабіла старажытная гісторыя, род крывічоў. І таму пастаянна клікалі дарогі. Яго і хвіліна скону застала не дома і не на шпітальным ложку, а пад адкрытым небам. У сакавіку, у тым жа вясновым месяцы, калі з'явіўся на белы свет. Яшчэ за два дні да смерці Яраслаў ездзіў на вечарыну ў Дом літаратара, слухаў добрую музыку, дзіцячыя спевы, быў поруч з сябрамі па літаратурным цэху...

У адным з ягоных твораў Празарока, які нёс варту на ўзвышшы, з грудзей сваіх вырваў палымянае сэрца і падняў высока-высока, каб паведаміць краю пра галоўную небяспеку – набліжэнне ворага. Яраслаў Сільвестравіч не шкадаваў сваё сэрца, параненае інфарктамі, аддаваў яго цеплыню і святло людзям. Шчыры і шчодры сын селяніна ад імя абкрадзенага і зняважанага працоўнага люду выказаў сваё крэда ў «Тастаменце»:

*«Адпісаў бы табе зямлі. Але ў мяне, селяніна, адабралі яе і, знявечыўшы, засеялі чарнабыльнікам.*

*Адпісаў бы табе грошы. Але я існаваў з працы рук сваіх – не сабраў за жыццё і капейчыны.*

*Адпісаў бы табе храм. Але яго няма, а на руінах святыняў яшчэ правіць шабаш антыхрыст.*

*І таму адзінае, што адпісваю табе, – гэта Любоў да краю роднага. Зберажы яе і перадай дзецям сваім. А дзеці няхай перададуць сваім дзецям. А тыя – сваім...*

*Тады мо ўсё і вернецца на кругі свая».*

**Васіль ЖУКОВІЧ, член Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

**На здымку (злева направа): Я. Пархута, У. Пузыня і С. Новік-Пяюн**

Народная Воля http://www.nv-online.info
5 САКАВІКА 2021 г.

КТО ЕСТЬ КТО

# Главные пропагандистские рупоры власти

*Что **Азаренок-младший** позаимствовал у отца-пропагандиста? Кем **Муковозчик** был в «нулевых»? Почему **Игорь Тур**, который мечтал стать Дудем и фотографировался в БЧБ-одежде, стал пропагандистом? Вот кое-что о людях, которые стали главными рупорами власти.*

## Григорий Азаренок и «тайные пружины» его семьи



До 2020 года Григорий трудился на ниве региональных новостей, но политический кризис в стране дал ему развернуться по-настоящему. И было с кого брать пример! Его отец Юрий – обычный слесарь из глубинки – активно «навешивал» гражданам с голубого экрана еще в 1990-х. Настоящая слава к Азаренку-старшему пришла после вышедшего перед референдумом 1995 года фильма «Ненависть: дети лжи», в котором он сравнил коллаборантов времен Второй мировой войны и современных белорусских патриотов. В 2005-м Юрий Азаренок указом Лукашенко был назначен заместителем председателя Белгостелерадиокомпании. 13 июня 2008 года его вынуждены были уволить. Главной причиной стал один из тяжелых человеческих пороков..

Но Григорий настолько восхищался карьерой отца, что даже украл у него название для своей передачи «Тайные пружины политики». Одноименный фильм Юрий Азаренок выпустил еще в далеком 2001-м. Сегодня младший в семейном подряде пропагандистов снимает сюжеты о теории коронавирусного заговора, мистической войне против Лукашенко и «тех, кто осквернил свою жизнь грехом предательства». Вот 14 февраля вышел очередной ролик на песню «Накажи их, боже». Помимо лидеров оппозиции в нем засветились певица Агурбаш, спортсменка Герасименя и телеведущий Перлин. Азаренок назвал их «бездарностями» с «полным отсутствием таланта»: *«Вы продались в августе, и уже через неделю о вас забыли. Почем вы, мастера культуры? Впереди у вас – старость, неизгладимый позор, бедность и безвестность!»* Вероятно, на белорусском ТВ обучают говорить в тональности известного фигуранта, выкрикивая: «Наркоманы! Проститутки!»

**Интересный факт:** в 2007 году Азаренок-старший получил оплеуху от Киркорова на «Евровидении», после чего в том же году получил звание заслуженного деятеля культуры Беларуси. С 2014-го работал в отделе информации и общественных связей Управления делами президента под началом Виктора Шеймана. Кстати, в свое время Ю.Азаренок был физически наказан и Николаем Статкевичем.

Парадокс: недавно А.Лукашенко наградил Азаренка-младшего медалью «За отвагу». Конец света!

## Веселый и находчивый Андрей Муковозчик

В этом году Андрею Муковозчику стукнет 58 лет, но он, говорят, не унывает. Еще каких-то 15 лет назад этот персонаж возглавлял МОО «Белорусский КВН». В 2007-м у него была своя программа на телевидении «Вот так шоу!», куда он приглашал белорусских КВНщиков из российской «Евролиги». Это противоречило законам Международного союза КВН, из-за чего вспыхнул конфликт с Масляковым.



В итоге «Евролигу» закрыли, но и передача Муковозчика просуществовала недолго. Интересно, что в разгар конфликта белорусские КВНщики написали Маслякову открытое письмо, в котором говорилось, что действия руководителя белорусского КВН *«идут вразрез с интересами всего КВНовского движения Беларуси»*: *«В ход идут любые методы – от подтасовки фактов до циничного использования популистских лозунгов. На деле же речь идет о личных амбициях и финансовых интересах одного человека, который практически в одиночестве продолжает пытаться вершить судьбы Белорусского КВН, реально никого не представляя»*.

В 2010 году Муковозчик покинул пост председателя МОО «Белорусский КВН», похоронив юмор в Беларуси. Далее была карьера журналиста. Через несколько лет он почувствовал себя колумнистом и стал писать для «Советской Белоруссии». Обелить убийц из НКВД, которые сожгли белорусскую деревню, – легко. Назвать работу белорусских адвокатов в разгар репрессий подленькой – пожалуйста.

А главное – ему все сходит с рук. Зато других журналистов отправляют в тюрьму на два года за стрим с «Площади Перемен». Но фокус в том, что Муковозчика даже нельзя назвать журналистом – он понятия не имеет о профессиональной этике. Но помните, как у Лапенко-журналиста: «Чувство собственного профессионализма не дает мне покоя».

## Как Тур хотел быть Дудем, но пришлось полюбить Лукашенко

Кто такой Игорь Тур на самом деле? Он родился в поселке Первомайский, хотел стать футболистом, но – может, потому, что мама работала директором городского Дворца культуры, – решил выбрать творческую стезю. В интервью от 2020 года «Лидской газете» он признался, что в футболе звезд с неба не хватал, поэтому решил сменить профиль и стать спортивным журналистом (какое сходство с жизненным путем Юрия Дудя!).

Игорь Тур поступил на журфак БГУ, участвовал в конкурсах красоты вроде «М---глую оппозицию, которая хочет «любить, бить и резать».

В студенческие годы юноша не питал большой любви к курсу Лукашенко. Определиться с убеждениями помогла *«влиятельная девушка с пролукашенковскими взглядами»*, которая появилась на личном фронте. Вскоре Тур попал в президентский пул журналистов, а общение с бывшими однокурсниками сошло на нет.



По-настоящему звездный час Игоря наступил в 2020-м, когда многие коллеги отошли в сторону и освободили эфирное время в прайм-тайм. Довольно быстро стал любимчиком Лукашенко, сопровождая его на официальных мероприятиях.

## Придыбайло: обида на Перлина и скандал с суицидом



Константин Придыбайло родился в Воркуте, но потом вернулся на историческую родину родителей и поступил в БГУ на факультет социальной психологии. Венценосно носил звание «Звезда культуры университета».

В 2012 году прошел кастинг и стал ведущим программ «День спорта» и «Добрай раніцы, Беларусь!» на «Беларусь-1», но всегда хотел большего. Поэтому уехал в Россию. В 2015-м устроился на канал Life78 (часто называемый «желтым»), но уже в 2016-м оказался втянут в скандал. Дочь вице-губернатора после откровенного интервью с корреспондентом канала покончила жизнь самоубийством. Журналисты оставили девушку, которая недавно выписалась из психиатрической больницы, одну в квартире, несмотря на предупреждения родственников, что она может покончить с собой. Константин Придыбайло, будучи заместителем главного редактора Life78, высказал мнение, что его журналисты поступили правильно. Союз журналистов Санкт-Петербурга выявил нарушения этики и осудил действия сотрудников телеканала.

После скандала Придыбайло покинул канал. Ходили слухи, что он планировал вернуться в Беларусь и стать шоуменом – белорусским Ургантом. Но вакантное место занял Евгений Перлин. Тогда Константин уехал в Москву и стал работать в компании Life над молодежным политическим шоу.

В 2020 году в рядах корреспондентов Russia Today Константин победоносно вернулся в Беларусь, чтобы, как многие считают, излить всю желчь и ненависть за то, что его когда-то обидели. В одном из стримов он назвал Марию Колесникову *«гнусной сукой»*, которая перестала *«попадать в его широкий сексуальный коридор»*. Не забыл он и про Перлина, которого назвал *«переобувшимся в полете»* ради того, чтобы вести корпоративы. Костя готов на любой хайп – даже сказать в эфире Соловьева что *«белорусы тупые»*.

**Интересный факт:** Придыбайло угрожали убить в Беларуси за ложь, которую он говорит по госТВ.

*(По материалам интернета.)*

ШАШКІ

## Вядомы аўтар у новым амплуа

Украінскі кампазітар **Валерый Кручкоў** паспрабаваў свае сілы і ў рускія шашкі.

№1 **Белыя:** a3, b4, d2, e1, e5, g3 (6).
**Чорныя:** a5, c3, d4, e7, g5, g7 (6).

Наступная міні належыць вядучаму рубрыкі.

№2 **Белыя:** a5, a7, c1, e3, f6, g5 (6).
**Чорныя:** d2, d6, d8, f4, h6, h8 (6).

Далей прапануем творы магілёўскага майстра **Дзмітрыя Камчыцкага**.

№3 **Белыя:** b6, d6, e1, f2, h4, h6 (6).
**Чорныя:** b8, d4, f4, f8, g3, h8 (6).
№4 **Белыя:** d2, d6, e7, g5, h4, h6 (6).
**Чорныя:** d8, f2, g3, h8 (4).

Самастойна знайдзіце выйгрыш за белых у якасці падрыхтоўкі да чарговага бліц-конкурсу.

На заканчэнне знаёмім з кампазіцыямі-64 мінчаніна **Валерыя Свізінскага**.

№5 **Белыя:** a3, f4, g3, g7, h4 (5).
**Чорныя:** c7, d6, e5, e7, h2 (5).
h8(f6), hg5, g1(b6, g1), b4 (h2), b8, c5, f4(c3), c1 x.
№6 **Белыя:** a5, a7, b4, c1, d2, f2 (6).
**Чорныя:** b8, c7, d4, e5, f4, h4 (6).
de3, c5(f4), cb6(d6), e3, c5, e1(g3), c7, b8(h2), g3, f2 x.
№7 **Белыя:** a7, b6, c1, c3, g1, h2 (6).
**Чорныя:** a3, b8, d6, e5, f6, h4, h6 (7).
c7(c5), g3(f2), e3, b8(fg5), f4(e3**A**), d4, b4(d4), bd2(g5, c3), g7(ab2, d2), c3, c5 x. **A**(g3, f4), b4, d2(g5), e3(h4), f4 x.



№8 *(гл. дыяграму)* **Белыя:** a3, b2, c3, d2, e3, f2, f4, g1, g3 (9).
**Чорныя:** a5, a7, c7, d6, f6, g5, g7, h4, h6 (9).
cd4(cb6), dc3(bc5, c7), cd4(cb6), de5, e7, d4, e3(f6, d2), c5, c3, e3 x.

## На старт, кампазітары!

Аб'яўлены конкурс па складанні шашачных кампазіцый памяці **Мікалая Грушэўскага**. Па кожнай з дзвюх катэгорый (дамачныя і практычныя праблемы-100) да ***15 красавіка 2021 года*** можна даслаць дзве кампазіцыі каардынатару **Віктару Шульгу**: ***shulga.checkers@gmail.com***. Падрабязную інфармацыю глядзіце на шашачных сайтах.

## Кампазіцыі-100

Рашыце самастойна задумкі мінчаніна **Івана Наўроцкага**.

№9 **Белыя**: 18, 28, 29, 43, 44, 45, 46 (7).
**Чорныя**: 7, 8, 9, 20, 30, 35, 36 (7).
№10 **Белыя**: 17, 21, 24, 38, 39, 40, 48 (7).
**Чорныя**: 7, 13, 14, 19, 26, 35, 37 (7).
№11 **Белыя**: 17, 21, 23, 38, 39, 40, 43 (7).
**Чорныя**: 6, 7, 14, 26, 31, 35, 41 (7).



№12 *(гл. дыяграму)*. **Белыя**: 21, 24, 29, 30, 32, 33, 38, 43, 44 (9).
**Чорныя**: 11, 12, 13, 16, 18, 22, 27, 35, 41 (9).

## Супаставім рашэнні

"Народная Воля" ад 26 студзеня 2021 года.

**№7** – a5, c7(d6), g7, e5, c7, c3(g1), e3, c3 x.
**№8** – g5(h2), h6, g3(d6), b8, g3, f2 x.
**№9** – 37, 43:32, 43, 7, 44, 11, 2, 34, 34 x. **A**(a5), f4, h6 x.
**№10** – 18-13(9), 13, 4, 30, 34 x.
**№11** – 13(39), 8, 2, 13, 3, 26 x.

Адказы даслалі: **Сяргей Лойка**, **Уладзімір Дудка** (Украіна), **Эдуард Дамброўскі**, **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Леанід Жыхар**, **Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Сяргей Бурко** (Орша). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас рэдакцыі ***(220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, "Шашкі")*** або на электронны адрас ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту.**

КРЫЖАВАНКА

# «Ужо вясна-красна настала»

*Прысвячаецца вясне і 125-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі, драматурга, байкапісца, вучонага-мовазнаўцы **Кандрата Крапівы**.*

**Па гарызанталі:** 1."Ужо вясна-красна настала, // Белы … з палёў сагнала" – з сатырычнага верша К.Крапівы "Год Сцяпана-лайдака". Байкі і сатырычныя вершы пісьменніка не страцілі сваёй актуальнасці і сёння. 6."То свішча дрозд на мокрым дрэве, // То … вясенні гімн пяе" – з верша В.Гардзея "У свежасці зямлі вясенняй". 9."Нібы кветкі, … // Тут страчаюцца парою" – з верша К.Крапівы "Будуйце лазні!". 10."Каб … засланіць – вушэй асліных мала" – з байкі "Сава, Асёл ды …". 12.У сакавіку … з ноччу раўняецца (прык.). 14.Мінерал, разнавіднасць крэмнязёму. 16.Месца ў царкве, з якога чытаюць пропаведзі. 18.Сырое надвор'е. 19.Чырвоны радок у тэксце. 21."Другі … ні "бэ", ні "мя", // А любіць гучнае імя" – з байкі "Дыпламаваны …". 23.Прыстасаванне, на якім гушкаюцца 27."Пяюць …" – адна з выдатных п'ес драматурга К.Крапівы. 29.Цвёрды мінерал. 30."Воўк прыкінуўся лісой // Перад беларусам: // Не палохайся, я – свой" – з байкі "Лісі хвост і воўчы …".

**Па вертыкалі:** 1.Каса зрэзаны клін. 2.Старажытнаславянская літара. 3.Сакавік – з вадою, красавік – з травою, … – з кветкамі (прык.). 4.Заяц для лісы не тавáрыш, а … (прык.). 5.Літара гістарычнай кірыліцы і глаголіцы. 7.У … – па хлеб, у лес – па дровы (прык.). 21 сакавіка – Міжнародны дзень лясоў. 8.Глыбокая вузкая даліна. 11." … жанчыны – гэта царства пяшчотнасці, тонкасці і цярпімасці" (Ж.Русо). Са святам Вас, мілыя жанчыны, здароўя Вам і прыгажосці! 13. …, капельнік – народныя назвы сакавіка. 15."Нямала ёсць павадыроў, // Якія любяць люд працоўны // За тое толькі, безумоўна, // Што любяць яго кроў" – з байкі К.Крапівы "… і авадзень", у якой байкапісец быццам прадбачыў сённяшні дзень Беларусі. 17.Урачысты верш. 21 сакавіка – Сусветны дзень паэзіі. 18."Набраўся недзе, як свіння, // Дый брэша, як …" – з байкі Крапівы "Абраза". 20."Вось бы гэты язычок // Ў прыбіральню на …" – з байкі "Язычок", у якой К.Крапіва высмейвае халуёў, падхалімаў. 22.Возера ды … – шчасце для рыбака (прык.). 14 сакавіка – Міжнародны дзень рэк. 24."Такім мілей лісліва … паўзучы, // Чым верны друг, хоць і калючы" – з байкі К.Крапівы "Дзіця, вожык і змяя". 25. … жанчыны – чатыры плёткі (жарт.прык.). 26.Закончаная частка спектакля. 28.Асадак на дне вадаёмаў.



### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Снег. 6.Шпак. 9 Маладзіцы. 10.Сонца. 12.Дзень. 14.Кварц. 16.Амбон. 18.Слота. 19.Абзац. 21.Баран. 23.Арэлі. 27.Жаваранкі. 29.Агат. 30.Клык.

**Па вертыкалі:** 1.Скосак. 2.Ер. 3.Май. 4.Яда. 5.Яць. 7.Поле. 8.Каньён. 11.Царства. 13.Зімабор. 15.Вол. 17.Ода. 18.Сабака. 20.Цвічок. 22.Рака. 24.Гад. 25.Тры. 26.Акт. 28.Іл.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).